Магістрат

«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №1(95), лістапад, 2018г.

# ВЫНІКІ КАСТРЫЧНІЦКАГА СОЙМУ ПАРТЫІ БНФ

**27 кастрычніка ў цэнтральнай сядзібе БНФ адбылося чарговае пасяджэньне Сойму Партыі БНФ і Грамадзкага аб’яднаньня БНФ “Адраджэньне”.**

На пасяджэньні кіруючага органа партыі былі разгледжаныя пытаньні пра палітычную сытуацыю і пра становішча з запазычанасьцямі па аплаце партыйных офісаў у Менску і ў рэгіёнах, прынятыя заява па падзеях вакол народнага мэмарыялу ахвярам бальшавіцкіх рэпрэсіяў у Курапатах і заява аб неабходнасьці аднаўленьня працэсу далучэньня Беларусі да НАТА, вырашана правесьці традыцыйную акцыю да гадавіны Слуцкага Збройнага Чыну 24 лістапада.

Ва ўступным дакладзе старшыня Партыі БНФ **Рыгор Кастусёў** даў ацэнку тым мерапрыемствам, якія ладзіць улада ў апошнія месяцы – гэта беларуска-расейкі форум ў Магілёве, беларуска-украінскія сустрэчы на вышэйшым узроўні ў Гомелі, а таксама маштабная кампанія па адзначэньні стагодзьдзя савецкага камсамолу. Апошнюю кампанію старшыня БНФ ацэніў як яскравае сьведчаньне прасавецкага, пракамуністычнага характару цяперашняга рэжыму. Нездарма ў праекце бюджэту на наступны год для БРСМ, які прэзэнтуе сабе як спадкаемцы савецкага камсамолу, прадугледжанае вылучэньне больш чым 7 з паловай мільёнаў рублёў (і гэта толькі рэспубліканскі бюджэт – а ёсьць жа яшчэ субсідыі з мясцовых бюджэтаў). Рыгор Кастусёў адзначыў, што калі б гэтыя сродкі размяркоўваліся на конкурснай аснове і да іх мелі б доступ сапраўды незалежныя грамадзкія арганізацыі (тая ж Моладзь БНФ) – то карысьці для грамадзтва было б болей.

Старшыня Партыі выказаў задавальненьне тым, што сёлетняе адзначэньне стагодзьдзя Беларускай Народнай Рэспублікі на фоне афіцыёзных мерапрыемстваў набыло характар сапраўды народнага чыну, сьвята 25 сакавіка было ў параўнаньні з паказушнымі дзяржаўнымі сьвяткаваньнямі насамрэч народным, беларускім сьвятам.

Рыгор Кастусёў падкрэсліў важнасьць таго факту, што адным толькі Днём Незалежнасьці 25 сакавіка адзначэньне стагодзьдзя БНР не абмежавалася, і юбілейныя імпрэзы працягваюцца па ўсёй краіне. Сярод іншага, днямі выстава мастацкай суполкі “Пагоня” адчынілася ў магілёўскім грамадзкім цэнтры “Кола”, а нядаўна лідская суполка БНФ зладзіла да стагодзьдзя беларускай незалежнасьці сплаў па рацэ Нёман.

У гэтым сьвятле асаблівае значэньне мелі імпрэзы Партыі БНФ, прымеркаваныя да юбілейнай даты **19 кастрычніка – трыццацігодзьдзя заснаваньня Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту**. Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў адзначыў, што арганізатарам праграмы фронтаўскага юбілея атрымалася правесьці 30-годзьдзе БНФ у рэчышчы працягу праграмы сьвяткаваньня 100-годзьдзя БНР, што адпавядала першапачатковай задуме “БНР учора – БНФ сёньня”.

Лідэр партыі распавёў сябрам Сойму пра выставы і імпрэзы, якія былі арганізаваныя партыяй з нагоды 30-годзьдзя БНФ: выстава мастацкай суполкі “Пагоня”, прэзэнтацыя кнігаў **Сяргея Навумчыка**, выстава памятных рэчаў і друкаваных матэрыялаў з гісторыі Фронту, якая працуе цяпер на сядзібе партыі.

Старшыня Партыі БНФ Рыгор Кастусёў праінфармаваў сябраў Сойму пра сваю сустрэчу з намесьнікам кіраўніка адміністрацыі прэзыдэнта, якая адбылася 11 кастрычніка. “Галоўная тэма маёй размовы тычылася пытанняў таго, як будзе адзначацца Дзень Волі ў 2019 годзе. У тым ліку гаворка была пра тыя прапановы, якія мы высоўвалі год таму напярэдадні адзначэньня стогадовага юбілею БНР – хоць з боку дзяржавы былі крокі насустрач, але выканаць атрымалася толькі траціну ад нашых прапановаў. Будзем намагацца, каб і астатнія нашыя прапановы былі выкананыя ўжо ў межах адзначэньня 101-й гадавіны БНР”, — распавёў палітык.

З нагоды распаўсюджаньня ў сродках масавай інфармацыі паведамленьняў пра падрыхтоўку Расейскай Фэдэрацыяй найпраставага захопу Беларусі Сойм Партыі БНФ на прапанову старшыні партыі прыняў адмысловую **заяву “Беларусь павінная аднавіць працэс далучэньня да Арганізацыі Паўночна-Атлянтычнай Дамовы (АПАД ці NATO)”**. У заяве кіруючы орган палітычнай партыі адзначае, што хоць расейскі імпэрыялізм быў і застаецца галоўным ворагам сувэрэнітэту беларускай дзяржавы, цяперашнія паведамленьні і камэнтары “экспэртаў” маюць характар “фэйк ньюз” у межах прапагандысцкай кампаніі па дэзынфармацыі беларускага грамадзтва. Мэтай гэтай кампаніі ёсьць стварэньне атмасфэры паражэнства і паняверкі, фармаваньне ў беларусаў уражаньня непазьбежнасьці страты сувэрэнітэту. У якасьці адказу на гэтую кампанію Партыя БНФ разглядае умацаваньне беларускай культуры і грамадзянскай супольнасьці, беларускай мовы, беларускай царквы, беларускай прамысловасьці (у тым ліку новых высокіх тэхналёгіяў), беларускага бізнэсу, беларускай адукацыі. У вайсковай сфэры Партыя БНФ разглядае неабходным элемэнтам інтэграцыю Беларусі ў рэгіянальную сыстэму міжнароднай бясьпекі ў межах Арганізацыі Паўночна-Атлянтычнай Дамовы (АПАД ці NATO), што прадугледжанае праграмай Партыі БНФ.

Сябры Сойму абмеркавалі сытуацыю, якая склалася вакол Народнага мэмарыялу ахвярам камуністычных рэпрэсіяў у Курапатах. Апошнім часам сытуацыя вакол месца спачыну растраляных бальшавікамі беларусаў абвастрылася: поруч з ужо дзеючым забаўляльным комплексам “Поедім-паядзім” распачаліся дзеяньні ўладаў па пабудове дзяржаўнага мэмарыялу, які можа паграджаць канцэпцыі ўжо існуючага народнага мэмарыялу. Такім чынам пад выглядам мэмарыялізацыі Курапатаў можа адбыцца фактычнае знішчэньне нацыянальнага нэкропалю.

У часе дыскусіі выступілі фронтаўцы, якія працягваюць варту каля брамы “Поедім-паядзім”, пратэстуючы супраць функцыянаваньня забаўляльнай установы на касьцях. Так, сябра БНФ **Валер**

Magistrat

**Выдавец**:
Віцебская Рада Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэклямных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.
**E-mail: kas_vit@tut.by**
**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**

**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 30151001470040226000**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# ВЫНІКІ КАСТРЫЧНІЦКАГА СОЙМУ ...

**Рабцаў**, які працягвае варту вакол Курапатаў, ацэніў як памылковае рашэньне партыі ўлетку ўхіліцца ад далейшага ўдзелу партыі ў грамадзкай варце. Прапанову па аднаўленьні ўдзелу Партыі БНФ падтрымала сябра Сойму Партыі БНФ **Натальля Ільініч**. Сябра Сойму Партыі БНФ **Юрый Чавусаў** выказаў меркаваньне, што ў цяперашніх умовах пагроза ад дзяржаўнай мэмарыялізацыі можа быць большая чым ад існуючай рэстарацыі, якая працягвае працу нягледзячы на пратэсты.

На прапанову намесьніка старшыні Партыі БНФ **Аляксея Янукевіча** Сойм Партыі БНФ прыняў **заяву "Курапаты – нацыянальны боль беларусаў"**, у якой заклікаў грамадзян далучыцца да традыцыйнага шэсьця ў Курапаты на Дзяды, якое было прызначанае на 28 кастрычніка. Таксама ў заяве Сойм Партыі БНФ патрабуе ад ўладаў:

1. Забясьпечыць недатыкальнасьць Курапатаў, спыніць маніпуляцыі зь межамі ахоўных зонаў мэмарыялу і прыняць належныя дзеяньні дзеля спыненьня функцыянаваньня рэстаранна-забаўляльнагакомплексу "Поедем-поедім" на мяжы Курапатаў;
2. Гарантаваць немагчымасьць любой забудовы побач з Курапатамі, у тым ліку захаваньне ў цяперашнім стане месца Дарогі сьмерці;
3. Ажыцьцяўляць мэмарыялізацыю Курапатаў у поўным супрацоўніцтве і пад кантролем грамадзкай дырэкцыі народнага мэмарыялу ў Курапатах;
4. **Адкрыць для грамадзкасьці ўсе дакументы з архіваў КДБ, якія тычацца масавых рэпрэсіяў у Курапатах.**

У сваім выступе сябра Сойму Партыі БНФ мастак **Аляксей Марачкін** агучыў заяву аб падтрымцы дзейнасьці па дэкамунізацыі беларускага грамадзтва. Выступоўца павіншаваў усіх прысутных са 100-годзьдзем БНР і 30-годзьдзем БНФ і заявіў, што будучыня патрабуе ад беларусаў рэальнага асуджэньня камуністычных злачынстваў і забароны распаўсюджваньня камуністычнай ідэалогіі. Спадар Марачкін заявіў пра намер стварыць фонд "За Маскоўскі Нюрнберг" для рэсурсовай падтрымкі дзейнасьці па асуджэньні камуністычных злачынстваў і па скліканьні ўсясьветнага Маскоўскага антыкамуністычнага трыбуналу.

Перад сябрамі Сойму выступіў дэлегат першага (устаноўчага) З'езду БНФ сп. **Мячыслаў Бурак**, які падзяліўся ўспамінамі пра часы заснаваньня Беларускага Народнага Фронту, а таксама выказаў перакананьне, што маральныя асновы франтаўскай палітыкі павінныя вызначаць партыйную лінію і ў цяперашні час. Асабліва выступоўца падкрэсліў неабходнасьць беларусізацыі царкоўнага жыцьця, прычым не толькі ў духоўнай, але і ў эканамічнай сфэры.

Старшыня Парты БНФ паведміў сябрам Сойму пра цяжкае фінансавае становічша партыі, якое прывяло да ўтварэньня значных грашовых запазычанасьцяў па аплаце як цэнтральнай сядзібы партыі, так і офісаў у Гародні і Магілёве (офіс у Гародні ўжо апячатаны за неаплату арэнды).

**Запазычанасьці за цэнтральны офіс складаюць больш за 28 тысяч рублёў**, пра што ўжо былі публікацыі газэты "Беларусь Сегодня". Вынікам запазычанасьцяў стала пагроза высяленьня арганізацыі з памяшканьня на Чарнышэўскага, 3, дзе ад 2011 года месьцяцца юрыдычныя адрасы шасьці франтаўскіх структураў (Партыя БНФ, Грамадскае аб'яднаньне БНФ "Адраджэньне", Мінскія гарадскія арганізацыі Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне", Мінскія абласныя арганізацыі Партыі БНФ і ГА БНФ "Адраджэньне"). Кіраўніцтва партыі робіць захады і вядзе перамовы як па пошуку сродкаў, так і па рэструктурызацыі запазычанасьці. Далейшы лёс партыйнай сядзібы ў Менску будзе залежыць ад людзкіх ахвяраваньняў – ці будуць беларусы здольныя ўтрымаць адзіны будынак, які дае пляцоўку для палітычных сходаў і над якім лунае бел-чырвона-белы сьцяг.

У абмеркаваньні таго, якім чынам можна сабраць грошы для аплаты запазычанасьцяў за арэнду выступілі сябры Сойму Партыі БНФ **Зьміцер Дрыгайла, Юрый Чавусаў, Аляксандр Жучкоў, Андрэй Саротнік.**

Кіраўнік Слуцкай суполкі БНФ, сябра Сойму **Віталь Амяльковіч** выступіў з прапановамі пра даты і час адзначэньня 98-х угодкаў Слуцкага Збройнага Чыну. Сойм вырашыў правесьці традыцыйнае шэсьце і мітынг у Слуцку 24 лістапада, для чаго падаць адпаведную заяўку на правядзеньне акцыі. Вырашана апроч БНФ запрасіць да падпісаньня заяўкі і прадстаўнікоў іншых патрыятычных арганізацыяў. Падрыхтоўка заяўкі, перамовы з патэнцыйнымі суарганізатарамі і тэхнічнае забесьпячэньне выезду менскай дэлегацыі ў Слуцак вырашана ўскласьці на Управу ў супрацы з Слуцкай суполкай БНФ.

Па заканчэньні пасяджэньня Сойма сябры кіруючага органа партыі адзначылі трыццацігодзьдзе заснаваньне партыі келіхам віна, гучалі тосты "Жыве Беларусь!" ды "Жыве БНФ!".

# ЗБОР АХВЯРАВАНЬНЯЎ У ПАДТРЫМКУ СЯДЗІБЫ БНФ

**Сядзібе БНФ патрэбная Вашая падтрымка: адзіны офіс пад бел-чырвона-белым сьцягам абвесьціў збор ахвяраваньняў.**

Пералічыць грошы на аплату арэнды Сядзібы БНФ можна праз сыстэму "Разлік" (АРІП) / "Расчет" (ЕРИП), простым банкаўскім пералічэньнем, альбо наяўнымі ахвяраваньнямі ў самой сядзібе.

Сядзіба БНФ, адна са старэйшых незалежных пляцовак грамадзкага жыцьця ў Менску, абвяшчае збор грошаў для аплаты арэнды памяшканьня. Да 31 сьнежня 2018 г. на аплату арэнды трэба сабраць 28 000 рублёў – інакш ўлады пагражаюць скасаваньнем дамовы арэнды.

Апошнія сем гадоў Сядзіба БНФ размяшчаецца па вуліцы Чарнышэўскага, 3 – сюды яна пераехала пасьля таго, як улады выціснулі партыю з гістарычнага будынку на вуліцы Варвашэні (праспэкт Машэрава). Дамову арэнды скасавалі падчас правядзеньня маштабнага збору грашовай і рэчавай дапамогі людзям, што былі арыштаваныя на Плошчы-2010: гэта была помста ўладаў за кампанію народнай салідарнасьці – і дзякуючы народнай падтрымцы Сядзіба аднавіла працу на новым адрасе.

Цяпер самой Сядзібе БНФ патрэбная дапамога. У адрозьненьне ад праўладных партыяў, мы не маем ані ільготных ставак арэнды (якія ўлады далі ГА "Белая Русь" і камуністычнай партыі), ані шматмільённых датацыяў з дзяржбюджэту (якія ўлады даюць БРСМ).

Сядзіба БНФ як незалежная пляцоўка існуе выключна дзякуючы ахвяраваньням людзей.

Штогод дзесяткі арганізацыў ладзяць у памяшканьні Сядзібы БНФ культурніцкія, маладзёвыя, дабрачынныя мерапрыемствы – тут адбываюцца канцэрты (у тым ліку гэта пляцоўка для творчых сустрэчаў з музыкамі, якія трапляюць у "чорныя сьпісы"), выставы, дыскусійныя клюбы, прэс-канфэрэнцыі. Пляцоўка адкрытая не толькі для мерапрыемстваў БНФ: у памяшканьні Сядзібы адбываліся зьезды і сходы дэмакратычных партыяў і рухаў рознай скіраванасьці.

У часы павелічэньня рэпрэсіяў памяшканьне Сядзібы БНФ застаецца адзіным месцам, дзе незалежная грамадзкасьць можа вольна праводзіць свае імпрэзы.

**Будынак сядзібы БНФ на Чарнышэўскага, 3 цяпер ёсьць адзіным у Менску, дзе лунае нацыянальны бел-чырвона-белы сьцяг.** Але без грашовай падтрымкі людзей гэтае месца можа зачыніцца.

Мы заклікаем ўсіх беларусаў дапамагчы грашовымі ахвяраваньнямі на працяг арэнды Сядзібы БНФ і ліквідацыю наяўных запазычанасьцяў па арэндзе памяшканьня.

**Пералічаць сродкі для аплаты сядзібы БНФ можа любы грамадзянін Беларусі.**

Шчыры дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!

Жыве Беларусь!

Ахвяраваньні для аплаты Сядзібы БНФ можна зьдзейсьніць адным з трох шляхоў:

**1. Ахвяраваньні праз сыстэму "Разлік" (АРІП) / "Расчет" (ЕРИП).**

Пералічыць грошы праз сыстэму Разлік (АРІП)/"Расчет" (ЕРИП) у любым банку, праз інтэрнэт-банкінг, мабільны банкінг, інфакіёск, у банкамаце і г.д. Зьдзейсьніць аплату можна з выкарыстаньнем наяўных ці электронных грошаў, банкаўскіх плацёжных картак.

Рэквізіты для пералічэньня ахвяраваньняў можна знайсьці на сайце https://raschet.by/ – у графе пошуку паслугаў набірайце БНФ, ці **код паслугі 4431691**

ДЛЯ ПРАВЯДЗЕННЯ ПЛАЦЯЖУ ПРАЗ ЕРИП ТРЭБА:

Выбраць:

•Пункт "Сістэма" Разлік "(АРІП) / "Система "Расчет" (ЕРИП)

• общественные объединения/грамадскія аб'яднанні –

• прочие общественные объединения/іншыя грамадскія аб'днанні

• БНФ "Адраджэньне"

• БНФ "Адраджэньне" – код паслугі 4431691

Для аплаты ўвесьці прозьвішча, імя, імя па бацьку.

Праверыць карэктнасьць інфармацыі і зьдзейсьніць плацёж.

Калі Вы ахвяруеце праз касу банка, калі ласка, паведміце касіру аб неабходнасьці правядзеньня плацяжу праз сыстэму "Разьлік" (АРІП) / "Расчет" (ЕРИП).

**2. Ахвяраваньні праз банкаўскі рахунак**

Ахвяраваньні для аплаты Сядзібы можна пералічаць і наўпрост на рахунак Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне"

Рэквізыты:

ГРАМАДЗКАЕ АБ'ЯДНАНЬНЕ БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

ААТ "Банк БелВЭБ" г. Мінск Мінскае аддзяленне №2

BIC SWIFT: BELBBY2X

IBAN:BY70BELB30151001470040226000

УНП: 100052236

У графе "прызначэньне плацяжу" просім пазначыць: "бязвыплатны ўзнос на аплату арэнды памяшканьня", альбо "дабрачынны ўнёсак".

**3. Ахвяраваньні наяўнымі грашыма (у тым ліку ананімна)**

Ахвяраваньні на арэнду Сядзібы таксама можна зрабіць наяўнымі грашыма ў сядзібе БНФ (Менск, вул. Чарнышэўскага, 3), у тым ліку ананімна ў скарбонку для ахвяраваньняў на адрас Грамадзкага аб'яднаньня БНФ "Адраджэньне".

Графік працы сядзібы: офіс БНФ адчынены з 13 да 19 гадзінаў з панядзелка па пятніцу. Субота, нядзеля – выходныя.

З цэнтральным офісам Партыі БНФ Вы можаце зьвязацца праз электронны адрас Управы БНФ: uprava@narodny.org альбо праз тэлефон (017) 3645012.

Па спасылках шукайце кантакты Партыі БНФ у Менску і Менскай вобласьці, а таксама ў Магілёўскай, Гарадзенскай, Віцебскай, Берасьцейскай, Гомельскай абласьцях.

# НАМЕСЬНІК СТАРШЫНІ БНФ АЛЯКСЕЙ ЯНУКЕВІЧ СУСТРЭЎСЯ З ДЭМАКРАТЫЧНЫМ АКТЫВАМ ВІЦЕБСКУ

Сустрэча з экс-кіраўніком Партыі БНФ **Аляксеем Януквічам** адбылася 1 лістапада ў Віцебскім «Эўрапейскім клюбе». Заяўленая тэма



гучала як «дыскусія і абмеркаваньне будучых палітычных кампаніяў, стратэгія і тактыка перамогі».

Віцебская сустрэча стала першай з шэрагу заплянаваных, якія мусяць прайсьці ў буйных гарадох краіны.

Паслухаць сталічнага палітыка прыйшлі некалькі дзясяткаў мясцовых актывістаў з розных партыяў і структураў – прадстаўнікі ПБНФ, АГП, аргкамітэту па стварэньні партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя», руху «За свабоду» і іншых.

На пачатку дыскусіі зь невялікім вітаньнем выступіў кіраўнік абласной арганізацыі партыі БНФ Кастусь Смолікаў.

Затым слова ўзяў Янукевіч. У сваёй прамове ён абмаляваў цяперашнюю сацыяльную і палітычную сытуацыю ў краіне, пазначыў, якія задачы і пагрозы сёньня стаяць перад дэмакратычнай супольнасьцю Беларусі, ды што трэба рабіць, каб пазьбегнуць магчымых праблемаў.

Палітык прыгадаў асноўныя моманты прэзыдэнцкіх кампаніяў мінулых гадоў, зьвярнуў увагу на зробленыя памылкі і пралікі, даў характарыстыкі былым кандыдатам ад апазыцыі.

У выніку выступ госьця паступова перацёк у самапрэзэнтацыю як магчымага кандыдата на прэзыдэнцкую пасаду на наступных выбарах, якія, найхутчэй, пройдуць у Беларусі ў 2020 годзе. Паводле словаў Аляксея, ужо ёсьць папярэдняя згода кіраўніцтва партыі на яго вылучэньне. Ён прызнаўся, што ня мае вялікіх рэсурсаў на праўдзеньне поўнамаштабнай кампаніі і што ў цэлым «да найбліжэйшых прэзыдэнцкіх выбараў беларуская апазыцыя падыходзіць у самым дрэнным стане з моманту прыходу Лукашэнкі да ўлады». І, тым ня менш, лічыць свой удзел у выбарах неабходным. Раней пра свае прэзыдэнцкія амбіцыі ўжо заявілі Павал Севярынец, Вольга Кавалькова і некалькі іншых палітыкаў.

Пасьля выступу Аляксея надышоў час пытаньняў і дыскусіі. Найбольш вострыя пытаньні тычыліся разьяднанасьці апазыцыі і яе жаласнага стану.

На думку многіх актывістаў, неабходна не распыляць сілы, як гэта было на ўсіх апошніх выбарах, а аб'яднацца і вылучыць адзінага кандыдата ад апазыцыі – таго, хто б мог найбольш эфэктыўна і пісьменна правесьці кампанію. Сябра партыі БНФ **Аляксей Гаўруцікаў** выказаў прапанову аб'яднацца ўсім кандыдатам пад поўны байкот выбараў. Гэта дасьць магчымасьць ня толькі моцна панізіць яўку на ўчастках, якая, дарэчы, і так нізкая, але і вывесьці людзей на плошчу ў дзень выбараў. Але Янукевіч адпрэчыў і ідэю байкоту, і магчымае аб'яднаньне зь іншымі кандыдатамі.



**Тацяну Севярынец**, каардынатарку па Віцебскай вобласьці аргкамітэту БХД, цікавіла пытаньне, чаму партыя БНФ зьняла ахову з рэстарацыі «Паедзем паядзім» у Курапатах. На яе думку, партыя зрабіла не зусім прыгожа, калі спачатку разам зь іншымі структурамі прыняла рашэньне ўдзельнічаць у гэтым супрацьстаяньні, а пасьля з надуманых прычынаў адмовілася. Яна нават выказала думку, што БНФ прадалася за грошы, якія нібыта нехта прапаноўваў абаронцам Курапатаў, каб яны адмовіліся ад свайго пратэсту: «Нейкія сто тысяч даляраў камусьці прапанавалі. І я вырашыла, што купілася БНФ цалкам. У мяне такое было расчараваньне. Такі гамон!» – абуралася яна.

Гучалі і іншыя пытаньні – аб прыцягненьні новых прыхільнікаў у партыю, пра рэальнасьць збору неабходных ста тысяч подпісаў для вылучэньня, пра неабходнасьць працы з насельніцтвам і г.д.

Разыходзіліся віцебскія актывісты зь невялікім расчараваньнем. «Няўжо ўсё будзе, як і мінулымі разамі?» – безнадзейна запытваў нехта.

Хутчэй за ўсё, апазыцыйныя кандыдаты так і ня змогуць дамовіцца паміж сабой, усё адбудзецца паводле старой схемы, і вынік будзе той жа.

Сам Аляксей сказаў, што будзе лічыць сваёй перамогай калі «па выніках гэтых прэзыдэнцкіх выбараў адзіная грамадзкая дыскусія ў краіне будзе па пытаньні, як ўмацоўваць незалежнасьць». Але ці магчыма дасягнуць гэтай мэты, і навошта дзеля гэтага вылучацца ў кандыдаты ў прэзыдэнты – не зусім зразумела.

Уладзімер Бяляўскі,
рэгіянальны сайт
"Віцебская Вясна"